

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 7 (153) КРАСАВІК 2013 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ШУМІЛІНШЧЫНА НЕ ДАСЯГНУЛА ПРАГНОЗНЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ

**На рабочай нарадзе райвыканкама быў абмеркаваны ход выканання прагнозных паказчыкаў. Папярэдня даныя сведчаць аб тым, што раён не справіўся з планавымі заданнямі па многіх параметрах.**

Першы квартал 2013 года быў няпростым. У складаных умовах давялося працаваць і прамысловым прадпрыемствам, і сельгасарганізацыям. Але жыццё заўсёды ўносіць свае карэктывы ў раней намечаныя планы і задумы. Нават у спакойных умовах ад кадраў, якія клапоцяцца пра лепшае фінансавае будучае свайго калектыву, патрабуецца нямала прафесіяналізму, умення прыстасоўвацца да тых ці іншых абставін, граматнага выканання сваіх службовых абавязкаў. У прыватнасці адзначалася, што далёка не ўсе з іх поўнасцю выкарыстоўваюць наяўны патэнцыял, на многіх участках допускаюцца недапрацоўкі, упушчэнні. Хаця пэўныя лічбы і выглядаюць прывабна, згодна з якімі раён выканаў заданні па інвестыцыях у асноўны капітал, па экспарту тавараў і паслуг, а таксама паказчык па энергазберажэнні. Аднак за першы квартал былі не выкананы параметры па вытворчасці прамысловай прадукцыі (112,6% са 120%), па валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў сельгасарганізацыях (95,5% са 110%), па рознічнаму тавараабароту (113,3% са 115,%%), а таксама па зарплаце (3039,2 мільёна рублёў, заданне – 3399), іншых паказчыках. У некаторых галінах гаспадаркі заробкі зусім нізкія. Да прыкладу, у работнікаў бытавой сферы зарплата саставіла ўсяго 1,9 мільёна рублёў у месяц. Каб бытавікам дасягнуць сярэдняй зарплаты па раёну, трэба дамагчыся прыбытку ў 80 мільёнаў. Але з пачатку года яны зарабілі ўсяго 12 мільёнаў.

Дарэчы, ўрад Беларусі для такіх раёнаў, як Шумілінскі, вызначыў прыярытэтнымі 5 паказчыкаў. Але на сённяшні дзень у раёне выконваюцца толькі два : інвестыцыі ў асноўны капітал і ўвод жылля. Па-ранейшаму цяжка з выкананнем патрэбных аб'ёмаў у вытворчасці прамысловай прадукцыі, валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі і прамых замежных інвестыцый. Праўда, паводле лічбаў Нацыянальнага статыстычнага камітэта аб'ём прамысловай вытворчасці за першы квартал 2013 года саставіў 33 мільярды рублёў, у той час як за адпаведны перыяд мінулага года было 27,7 мільярдаў. Але адначасова ў разы зменшылася ўдзельная вага адгружанай інавацыйнай прадукцыі ў агульным аб'ёме адгружанай прадукцыі –усяго 0,4% (у мінулым годзе на гэты перыяд было 5%). Зменшылася вытворчасць асноўнай прадукцыі жывёлагадоўлі. Так, рэалізацыя жывёлы і птушкі на забой у жывой вазе за першы квартал 2013 года склала 3 087 тон, а за адпаведны перыяд мінулага года было 3 195 тон.

Пры гэтым у Шумілінскім раёне знізілася колькасць насельніцтва, занятага ў эканоміцы з 8 948 чалавек у першым квартале 2012 года да 8 819 у першым квартале бягучага года. Адпаведна пагаршаецца і дэмаграфічная сітуацыя. Калі ў першым квартале 2012 года на Шуміліншчыне пражывала 19 тысяч 267 жыхароў, то ў 2013 годзе налічваецца 19 тысяч 055 жыхароў. Крыху вырас узровень афіцыйнага беспрацоўя на канец перыяду ў адсотках да эканамічна актыўнага насельніцтва з 0,8% да 0,9%. Адпаведна і колькасць беспрацоўных павялічылася з 74 чалавек да 77.

Каб ліквідаваць адставанне, кіраўнік раёна Уладзімір Куранны падпісаў рашэнне, згодна з якім шэраг прадпрыемстваў і арганізацый раёна (найперш тыя, што прынялі на работу былых механізатараў, вадзіцеляў і іншых спецыялістаў сельскай гаспадаркі) павінны былі да 10 красавіка накіраваць спецыялістаў на дапамогу сельгаспрадпрыемствам. У гэтым выпадку пазіцыя кіраўніка раёна будзе больш моцнай і прынцыповай. Каб вярнуць упушчанае – скідак нікому не будзе.

**Аляксандр Шчамлёў**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## СПЕШНАЕ ЛАТАННЕ ДЗІРАК

**Ужо цэлы тыдзень брыгада рамонтнікаў выязджае ў аграгарадок Амбросавічы. Рабочыя руплівыя на ўчастку каля дамоў па вуліцы Зялёнай – тут ліквідуюць парывы водаправоднай сеткі і адкачваюць ваду з падвалаў. Балазе, што сёлетняя вясна выдалася халодная і снежная, надарыла паводку, таму работы камунальнікам прыбавілася.**

Старажылы памятаюць: колькі ў вёсцы існуе калгасны водапровод, столькі ж часу існуе праблема з падачай якаснай вады. Разам з тым пастаянна ўзнікае праблема забівання каналізацыйных труб. У Шумілінскім раёне сельскія водаправоды і каналізацыя масава будаваліся недзе ў 70-х гадах. А потым, праз два-тры дзесяткі гадоў усё стала разбурацца, і шмат чаго трэба мяняць. Пры гэтым у 90-я гады пачало скарачацца пагалоўе жывёлы ў калгасах, зачыняліся фермы, і свідравіны сталі працаваць у асноўным на патрэбы насельніцтва. Але ў гаспадарках не хапала сродкаў на іх абслугоўванне, таму іх перадалі на баланс раённага камунгасу. Жыхары аграгарадкоў спадзяваліся, што нарэшце бытавыя камунікацыі займуцца прафесіяналы, і жыллёва-камунальныя службы будуць мець усе неабходныя рэсурсы – фінансавыя, тэхнічныя і тэхналагічныя, каб сачыць за водаправодамі і рамантаваць іх.

Але, як паказала жыццё, пакуты вяскоўцаў яшчэ наперадзе. Да прыкладу, у тых жа Амбросавічах бывалі выпадкі, асабліва ў летні сезон, валі вады не было па два-тры дні запар. А стары водапровод савецкіх часоў ужо "рэанімаваць" не мае сэнсу. Дзесьці ў пачатку сакавіка ў жыхароў дамоў №4, №5 і №6 па вуліцы Зялёнай пачаліся праблемы с вадой і каналізацыяй. Бадай што, званкі і вусныя прэтэнзіі грамадзян кіраўніцтвам УП ЖКГ ад самага пачатку былі пакінуты без увагі. Праўда, затым праз некаторы час усё ж такі была выслана брыгада рамонтнікаў. Вопыт сведчыць, што прамаруджванне іншы раз пагражае надзвычайнай сітуацыяй, выпраўляць якую потым нашмат складаней. Аднак неадкладна рэагаваць на звароты кватэраздымшчыкаў у камунальнікаў не атрымліваецца. Бо ўхіляць няспраўнасць камунікацый і парываў сетак яны не паспяваюць. Таму ж шумілінскаму камунгасу не пад сілу пакуль што выкананне дзвюх задач: якаснае і бесперабойнае водазабеспячэнне, а таксама патрабуемая ўдзельная вага вуліц з удасканаленым пакрыццём. Яго кіраўнікі прызнаюць, што водаправодная сетка даўняя, яна фізічна і маральна састарэла, адсюль і частыя парывы, і аварыі. Да прыкладу, зношанасць водаправодных сетак па Шумілінскаму раёну складае да 80%.

Між іншым, паводле паступаючых у аварыйна-дыспетчарскую службу ЖКГ заявак па каналізацыі было ўстаноўлена, што больш за 70% падвалаў у жылых дамах хаця б аднойчы падтапліваліся сцёкавымі водамі або нечыстотамі з-за забівання каналізацыйных труб. І гэта толькі па аграгарадкам, у тым ліку і ў вёсцы Амбросавічы. Сапраўды, мала прыемнага, калі ў кватэры або ў пад'ездзе стаіць непрыемны пах і ў падвал немагчыма зайсці без гумавых ботаў. Пасля "касметычнага рамонту" тры гады таму ў аграгарадку капітальны рамонт падвальных памяшканняў не праводзіўся. Зараз карыстацца падвальнымі памяшканнямі не вельмі зручна. Водаправодныя і каналізацыйны трубы падцякаюць. Па вуглах стаяць лужыны ад нечыстотаў і сцёкавых водаў. Аконныя праёмы не зашклёныя, святла няма, электраправодка вісіць, як павуцінне.

У сваю чаргу і работнікі камунгасу сутыкаюцца з парушэннямі правілаў карыстання жылымі і падвальнымі памяшканнямі. З каналізацыйных труб і калодзежаў, у тым ліку і гэтых домоў, неаднойчы рабочыя выцягвалі рэшткі зімовых прыпасаў (салёныя агуркі, квашаную капусту, гнілую бульбу), розныя анучы і нават прадметы адзення і бялізны. Каналізацыйная сістэма перапаўнялася ў смеццеправод. Нярэдка гора-гаспадары гэтых і іншых дамоў выкідваюць ва ўнітаз практычна ўсё, што павінна быць ў вядры са смеццем: агуркі, яблыкі, пабіты посуд, тлушч, які ўтварае ў трубаправодзе пробкі і перашкаджае самацёку нечыстот. Гэта не работнікі УП ЖКГ закідваюць па начах у падвалы груды пластыкавых бутэлек, пабітыя шклянкі і ўнітазы, старую мэблю. Таму не дзіва, што аказаліся забітымі ўсё канлізацыйныя калодзежы па самыя крышкі люкаў. Бывае і так, што жыхары шматпавярховак закапваюць калодзежы зямлёй ды яшчэ ўмудрацца пасадзіць над імі градкі або кветкі.

Але работа па графіку часта замаруджваецца, бо прыходзіцца працаваць па прынцыпе "хуткай дапамогі" з прымяненнем прымусовага адкачвання асенізацыйнымі машынамі, прабіўкі нечыстот. А вядомая "традыцыя" камунальных служб не абмінула і амбросавіцкі ўчастак. Раскапалі катлаван, і некалькі дзён латалі дзірку на месцы парыву, месца работы абгарадзілі стужкай. Людзі ў гэты час сядзелі без вады. Затым рабочыя з'ехалі, трактар спіхнуў гразь у яму, пасля чаго на месцы рамонту ўтварылася балота. Дарэчы, у другім месцы зноў выцякае вада – утварыўся новы парыў, які ліквідаваць, па ўсёй бачнасці, не спяшаюцца. А з пад каналізацыйнага люка зноў прарвалі нечыстоты…

**Аляксандр Шчамлёў**

ЭКАНОМІКА

## ІНВЕСТАРЫ З РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ

**Замежныя інвестары гатовы дапамагчы Шуміліншчыне з мадэрнізацыяй дрэваапрацоўкі. Цяпер у нашы лясы пацягнуліся расіяне.Расійскіяінвестарыствараюць у Шуміліна буйны дрэваапрацоўчы комплекс. Мяркуецца, што агульны аб'ём інвестыцый складзе каля 15 млн. еўра.**

Перадусім расейцы набылі на аўкцыёне арачнік, які раней належаў райсельгасхіміі, і на базе гэтых плошчаў маюць намер арганізаваць уласную вытворчасць. Новы дрэваапрацоўчы комплекс будзе ўключаць у сябе дзесяць прадпрыемстваў. Першае з іх – "ІскПоиск" зарэгістравана ў раёне яшчэ ў 2010 годзе. У канцы мінулага года да яго дадаліся прадпрыемства "Бивер Трэйд" і "Вуд Уокер", закліканыя займацца сталярнымі працамі, сушкай піламатэрыялаў, а таксама продажам гатовых вырабаў. Яшчэ сем прадпрыемстваў, якія будуць створаны і аб'яднаныя ў комплекс, будуць займацца вытворчасцю ацыліндраванага бруса, драўляна-палімерных кампазітаў, вырабам вокнаў і канструкцый дахаў, перавозкай і іншай дапаможнай дзейнасцю.

Цяпер інвестар ужо набыў у Італіі сучаснае сушыльнае абсталяванне, якое ў лютым плануецца даставіць у Шуміліна. Мяркуецца, што ў прадпрыемствах новага дрэваапрацоўчага комплексу ў Шуміліне знойдуць сабе працу каля 400 чалавек.

Па словах намесніка Шумілінскага райвыканкама Віктара Доктарава, дрэваапрацоўчы комплекс - не адзіная новая вытворчасць, якоя ў гэтым годзе з'явіцца ў раёне. ТАА "Альянспласт" набыла на аукцыёне былы цэх завода "Вістан", дзе мае намер арганізаваць вытворчасць пластмасавых вырабаў. Маюцца і іншыя напрацоўкі. У агульным заліку сёлета ў райвыканкаме спадзяюцца прыцягнуць у эканоміку не менш 1,5 млн. доляраў прамых замежных інвестыцый.

**Алесь Прыбярэжны**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# БЛІЖЭЙ ЗНАЁМІЦЦА З УМОВАМІ ПРАЖЫВАННЯ ЛЮДЗЕЙ

**Падворныя абходы ў Шумілінкім раёне працягваюцца. У апошні раз мерапрыемства з удзелам прадстаўнікоў раённай адміністрацыі адбылося на тэрыторыі Обальскага сельсавета. Група чыноўнікаў з райвыканкама на чале з кіраўніком раёна Уладзімірам Куранным агледзела вытворчыя і сацыяльныя аб'екты, былі выслуханы скаргі грамадзян на работу камунальнай службы.**

Жыццё на месцы не стаіць, і мясцовыя органы ўлады штогод удасканальваюць формы работы з насельніцтвам. Калі некалькі гадоў таму болевыя кропкі ўлады выяўлялі з дапамогай зносін з жыхарамі вёсак на сходах, то зараз у практыку ўвайшоў падворны абход населеных пунктах асобна ўзятых сельсаветаў.

Рабочыя групы, у складзе якіх прадстаўнікі аддзелаў і ўпраўленняў райвыканкама, спецыялісты тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання, работнікі міліцыі, дэпутаты сельскага і раённага Саветаў дэпутатаў заходзяць у кожны дом, каб пагаварыць з людзьмі, на месцы вывучыць праблему і вызначыцца з яе рашэннем. Пастаянна праводзяцца выязныя і асабістыя прыёмы грамадзян, "прамыя лініі".

Сёлета на Обальшчыне найбольш прыцягваюць увагу жыллёва-камунальныя пытанні, умовы пражывання грамадзян у шматпавярхоўках. На дрэннае водазабеспячэнне скардзіліся не толькі жыхары горпасёлка Обаль, але і вяскоўцы з Грудзінава і Лявонава. Абсталяванне састарэлае: часта здараюцца парывы водаправоду, выходзяць са строю помпы. У падвалах шматпавярховак збіраецца сцёкавая вада, праз дзіравы дах цячэ па сценах кватэр, размывае тэрыторыі вакол дамоў. Такую вось непрывабную карціну на свае вочы пабачыла дэлегацыя раённых начальнікаў розных службаў.

Акрамя таго, быў арганізаваны пашыраны выязны прыём. Пытанні, якія хвалявалі жыхароў Обальшчыны, тычыліся бытавых умоў пражывання. Адна праблема была, як кажуць, "з барадой" – капітальны рамонт дома № 15 на вуліцы Першамайскай абяцаюць зрабіць ужо сем гадоў. Дарэчы, падобныя абяцанкі камунальнікаў раздаюцца па ўсяму раёну – капітальныя рамонты жылля, пабудаванага ў 70-тыя гады, кожны год пераносяцца. А прычыны навідавоку: няма сродкаў на рамонт. Выклікалі нараканні ў насельніцтва і нерегулярны вываз смецця, і нізкая тэмпература ў некаторых кватэрах. Прычым плату за паслугі вылічваюць, але якасць таго абслугоўвання далёкая ад сацыяльных стандартаў.

Падчас сустрэчы на частку пытанняў адказы былі дадзены адразу падчас прыёму, а частка патрабуедадатковагавывучэння і яшчэ будзе разглядацца ў чэрвені. Дырэктару жыллёва-камунальнай службы Івану Штуро ўказана давесці да ладу работу обальскага ўчастка.

Як бы там ні было, але самае важнае – вырашаць праблемы насельніцтва не адкладваючы. Тады людзі і будуць давяраць. Асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе важна вырашэнне паўсядзённых праблем, пачынаючы ад закупу малака і заканчваючы парадкам каля сваіх сядзіб. Тут усюды бачна роля грамадскага самакіравання.

**Алесь Шумскі**

КРЫМІНАЛ. ЗДАРЭННІ.

# СПАЎ П'ЯНЫ НА РЭЙКАХ

Відовішча, якое заўважыў машыніст грузавога цягніка на пад'ездзе да станцыі Шуміліна – не для людзей са слабымі нервамі. Было цёмна, але яркае святло лакаматыва выхапіла чалавека, які наўпрост ляжаў на рэйках – да яго заставалася не болей за паўтары сотні метраў. Машыніст прымяніў тэрміновае тармажэнне. Раздаўся скрыгат металу, і вялікі нагружаны састаў спыніўся літаральна ў метры ад небаракі, які моцна спаў на чыгуначным шляху. Як высветлілася, малады чалавек быў п'яней гарэлкі. У яго крыві было выяўлена 2 праміле алкаголю, што лічыцца цяжкай ступенню ап'янення. Трыццацігадовы дзяцюк, перабіваючыся часовымі заробкамі, гасцяваў у маці, якая пражывае ў вёсцы Обаль. Перадусім мужчына напіўся ўшчэнт. На станцыі Обаль залез на счэпку паміж вагонамі грузавога цягніка. І так боўтаючыся, рызыкуючы сарвацца пад колы, даехаў на станцыі Шуміліна, дзе і ўлёгся спаць прама на рэйках.

Як паведаміў начальнік Віцебскага аддзела АУС Сяргей Стэльмах, толькі ў гэтым годзе на чыгуначных шляхах атрымалі траўмы 11 чалавек ( у мінулым годзе – 25), з іх сямёра загінулі, дзевяць удзельнікаў здарэнняў знаходзіліся ў нецвярозым стане. За пераход у неўстаноўленых месцах у бягучым годзе пакараны 1690 грамадзян.

# РАБАЎНІК ЗАТРЫМАНЫ

**Напрыканцы сакавіка 2013 на сістэму назірання Шумілінскага аддзялення Дэпартамента аховы МУС паступіў сігнал «Трывога» з ахоўнага аб'екта – адной з крамаў Шумілінскага райпажыўтаварыства.**

Да аб'екта тэрмінова выехала аператыўная група ў складзе міліцыянера-кіроўцы прапаршчыка міліцыі Канстанціна Шкляра і міліцыянта-кінолага сяржанта міліцыі Алега Барзакова, якія выехалі да месца здарэння са службовым сабакам.

Літаральна праз тры хвіліны супрацоўнікі аховы прыбылі на месца. Пры аглядзе будынка на адной з дзвярэй яны выявілі сляды ўзлому. Абследаваўшы памяшканне, міліцыянты затрымалі зламысніка, які спрабаваў патрапіць у краму з дапамогай лому і сякеры. Дзякуючы прафесійным дзеянням супрацоўнікаў аховы, маёмасць крамы захавана, а затрыманы дастаўлены ў раённы аддзел унутраных спраў.

# ВЫКРАЛІ ПАЎТОНЫ БУЛЬБЫ

Амаль паўтоны бульбы вывезлі з чужога двара чацвёра саўдзельнікаў . Дзе, хто і калі пачуў пра тое, што ў адной з жыхарак райцэнтра засталіся вялікія запасы бульбы, гісторыя замоўчвае. Як высветлілася, гаспадыня сама потым распавяла ў міліцыі, што абмяркоўвала са знаёмымі праблему збыту лішкаў. А ўжо плёткі па райцэнтры распаўсюдзіліся хутка. Выкрасці і збыць чужую гародніну вырашылі двое жыхароў Шуміліна. У долю ўзялі знаёмых з Пальмінкі (Гарадоцкі раён) – удвах мяшкі цягаць занадта доўга. Агледзеліся на мясцовасці, знайшлі каня з калёсамі, дачакаліся цемры, сарвалі замок і вынеслі з хлява ўсё, што змаглі. А менавіта: 480 кілаграмаў бульбы і трохі морквы з буракамі ў дадатак. Усё ў суме пацягнула больш чым на адзін мільён рублёў.

Пабудова, дзе захоўваліся гародніна, знаходзіцца метрах у трыццаці ад жылога дома, і хоць злачынцам не раз даваліся туды-сюды хадзіць, каб пагрузіць мяшкі на фурманку, шуму ніхто не пачуў. Зламыснікаў вылічылі па слядах колаў фурманкі – яны нават не здагадаліся развезці здабычу па розных месцах. Праўда, да таго моманту частку гародніны яны ўжо паспелі збыць. Цяпер іх чакае суд і крымінальная адказнасць. Ну вядома ж і кампенсацыя шкоды пацярпелай гаспадыні.

# ЛЕГКАВІК ПРАВАЛІЎСЯ НА РАЗМЫТАЙ ДАРОЗЕ

Каля вёскі Слабада Мікалаеўскага сельсавета на грунтовай дарозе ўтварыўся размыў шырынёй 8 м і глыбінёй каля 1 м. Рухаючыся па гэтым участку дарогі, у яго праваліўся легкавы аўтамабіль ВАЗ-2106. Кіроўца не пацярпеў, а машына атрымала нязначныя механічныя пашкоджанні.

Як паведамляе МНС, па стане на 06:00 19 красавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці падтоплены: 6 нізкаводных мастоў (Лёзненскі раён – 4, Бешанковіцкі раён – 1, Полацкі раён - 1), 7 участкаў дарог (Аршанскі, Бешанковіцкі, Шумілінскі, Лёзненскі, Шаркаўшчынскі і Верхнядзвінскі раёны), 34 жылыя дамы (Гарадок, Верхнядзвінск, Дуброўна, Шаркаўшчына), з гэтых дамоў часова адселеныя 18 чалавек.

**Уладзімір Амбросаў**

ЗДАРОЎЕ

# ЗАЕЛІ ВОШЫ? АБЫ ВАЙНЫ НЕ БЫЛО

**Умінулым годзе на Віцебшчыне была зафіксавана 1088 выпадкаў педыкулёзу. Паводле афіцыйных даных Шумілінскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў нашым раёне таксама выяўлена 14 выпадкаў захворвання педыкулёзам.**

Гэтага захворвання летась не болей, чым у папярэднія гады, аднак 14 выпадкаў сведчаць самі за сябе. Іх выяўлены яны пераважна сярод сельскіх дзяцей 7-15 гадоў (75%), менш – сярод дарослых вясковых жыхароў.

Педыкулёз выяўлены ў жыхароў гарадскіх пасёлкаў Шуміліна, Обаль, вёсках Полькавічы, Свярдлы, Язвіна, Сіроціна, Амбросавічы, Лескавічы. У 2013 годзе ўжо выяўлены 4 выпадкі (Шуміліна, Светласельскі, Мікіціха).

Вашывасць — гэта паказчык нізкай санітарнай культуры, грэбавання элементарнымі гігіенічнымі правіламі (рэдка мыюць цела і галаву, мяняюць бялізну, даглядаюць валасы).

Аднак ніхто не можа быць застрахаваны ад заражэння, бо вошы надзвычай пладавітыя. Гэта адбываецца пры прамым кантакце ці выкарыстанні заражаных рэчаў (шапак, ручнікоў, пасцельнай бялізны, расчосак), а таксама ў лазнях. Педыкулёз яшчэ небяспечны і тым, што вошы з'яўляюцца пераносчыкамі ўзбуджальнікаў сыпнога тыфу. Каб пазбегнуць хваробы, не трэба карыстацца чужымі рэчамі і адзеннем, рэгулярна мыцца, пастрыгацца і прыбіраць памяшканне. Нярэдка захворванне распаўсюджана ў сацыяльна небяспечных сем'ях, каросту і педыкулёз выяўляюць у адабраных дзяцей пры ўладкаванні ў прытулак.

Нягледзячы на тое, што ў апошнія гады ў рэспубліцы адзначаецца зніжэнне хворых на педыкулёз, праблема застаецца актуальнай. Зніжэнню распаўсюджанасці гэтага захворвання спрые павышэнне санітарнай культуры насельніцтва, актывізацыя супрацьэпідэмічнай працы медыцынскіх работнікаў. Зніжэнню рэгістрацыі педыкулёзу і каросты ў гарадах, верагодна, спрыяеітое, штоплацежаздольныя грамадзяне РБ маюць магчымасць звярнуцца ў медыцынскія цэнтры, да прыватных лекараў, дзе такія "ганебныя" хваробы, як педыкулёз і кароста часцей за ўсё, не рэгіструюцца. Акрамя таго, хворыя нярэдка займаюцца самалячэннем, карыстаючыся паслугамі знаёмых лекараў і Інтэрнэту.

**С. Горкі**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ КОЛЬКАСЦЬ ЗАБОЙСТВАЎ

**Паводле дадзеных Генеральнай пракуратуры, у Віцебскай вобласці на агульным фоне скарачэння злачынстваў больш чым на 23%, вырасла колькасць забойстваў і прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Разам з тым зарэгістраваны рост цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў і ў Шумілінскім раёне.**

У 2012 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці зарэгістравана 12 441 злачынства, што на 23,3% менш, чым у 2011 годзе. Зменшылася колькасць злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення, групай асобаў, раней судзімымі, непаўналетнімі.

Аднак у той жа час павялічылася колькасць забойстваў і фактаў прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, што стала прадметам абмеркавання на каардынацыйнай нарадзе па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй у Віцебскай вобласці. Разам з тым у мінулым годзе ў вобласці здзейснена 54 забойствы і замахаў на забойства (11,9%), пры гэтым рост замахаў на жыццё грамадзян адзначаецца ў Чыгуначным, Першамайскім раёнах г.Віцебска, Віцебскім, Бешанковіцкім і Гарадоцкім раёнах. Таксама ўзрасла колькасць злачынстваў, звязаных з наўмысным прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў (з 157 да 182, або на 15,9%).

У Шумілінскім раёне ўзровень злачыннасці па- ранейшаму вельмі высокі: 134,7 злачынства на 10 тысяч насельніцтва (у вобласці – 102,5). У мінулым годзе ў нашым раёне было здзейснена 13 (у 2011 годзе – 9) цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў, у тым ліку тры забойствы. Асабліва трывожны лічбы падлеткавай злачыннасці на Шуміліншчыне: з 13 выпадкаў у 2011 годзе да 18 ў 2102 годзе, гэта не проста крадзяжы, але і забойствы, наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Аналіз статыстычных дадзеных і матэрыялаў крымінальных спраў сьведчыць аб тым, што асноўнымі прычынамі і ўмовамі, спрыяльнымі здзяйснення злачынстваў супраць асобы, з'яўляюцца п'янства і алкагалізм, незанятасць грамадска карысцай працай, недахопы ў дзейнасці суб'ектаў прафілактыкі, у тым ліку ў рабоце з асобамі, што вярнуліся з папраўчых установ і лячэбна-працоўных прафілакторыяў.

**Алесь Прыбярэжны**

НАША БУДУЧЫНЯ

# КРАІНА ГУБЛЯЕ СВОЙ СУВЭРЭНІТЭТ

**Лідэры апазыцыйных партыяў і рухаў настойваюць на нэўтральным статусе Беларусі, якія запісаны ў Канстытуцыі.**

На сустрэчы ў Менску з Аляксандрам Лукашэнкам міністар абароны Расеі Сяргей Шайгу паведаміў пра намер Расеі разьмясьціць у Беларусі сваю авіяцыйную базу. Сёлета плянуецца разьмясьціць першае дзяжурнае зьвяно баявых зьнішчальнікаў. Да таго ж, паводле дамоўленасьці Лукашэнкі і Пуціна ўжо ў 2014 годзе Расея паставіць у Беларусь чатыры дывізіёны «С-300» для абароны паветранай прасторы, перадае радыё "Свабода".

Старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандар Мілінкевіч лічыць гэтыя дамоўленасьці вялікай небясьпекай для Беларусі. На ягоную думку, гэта не ўмацаваньне абароназдольнасьці, а пагроза. Бо Беларусь павінна захоўваць статус нэўтральнай дзяржавы, як гэта запісана ў Канстытуцыі:

«І нам ваенныя блёкі, асабліва сёньня, абсалютна непатрэбныя. Але гэта расплата за тое, што мы маем падарункі ў выглядзе танных нафты і газа, расейскія рынкі даступныя. Не бывае бясплатных падарункаў у такіх адносінах. Таму я лічу, што гэта вельмі кепска. Асабліва мяне зьдзіўляюць словы Шайгу пра тое, што гэта праявы братэрскіх пачуцьцяў, і яны зьбіраюцца бараніць. Таму гэта проста рэалізацыя маскоўскага пляну па ўмацаваньні ваеннай магутнасьці. На жаль, краіна губляе свой сувэрэнітэт. І эканамічны, калі прадае адной краіне сваю эканоміку. А палітычны вось такімі крокамі. На жаль, пагроза вялікая».

Партыя Беларускага Народнага Фронту выступіла са зваротам, асноўнай тэзай якога тое, што расейскія зьнішчальнікі на нашай зямлі — пагроза для кожнага беларуса. Працягвае старшыня партыі БНФ Аляксей Януковіч:

«Разьмяшчэньне на тэрыторыі Беларусі расейскіх вайсковых базаў ня толькі супярэчыць нацыянальным інтарэсам і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, як нэўтральнай дзяржавы, але і ставіць пад пагрозу бясьпеку кожнага беларуса.

Расея перайшла да адкрытых, непрыхаваных дзеяньняў, скіраваных наператварэньне Беларусі ў буферную зону па абароне сваіх інтарэсаў. Як шмат разоў бывала за апошнія 200 гадоў, Крэмль хоча за кошт жыцьцяў беларусаў гарантаваць свой спакой і бясьпеку.

Мы не пакінем гэтую справу і будзем усімі даступнымі негвалтоўнымі сродкамі пратэставаць супраць разьмяшчэньня расейскіх зьнішчальнікаў на беларускай зямлі і супраць іх знаходжаньня ў беларускім небе».

НАША "СЯБРОЎКА"

# РАСІЯ БУДЗЕ ШАНТАЖАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ ПАСТАЎКАМІ НАФТЫ

**Урад Расіі падрыхтаваў ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць павелічэнне паставак нафты на беларускія НПЗ у трэцім і чацвёртым кварталах 2013 года. Прычына гэтага — у невыкананні Мінскам умоў па вяртанні ўзгодненага аб'ёму нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, а таксама ў зацягванні рэалізацыі сумесных інтэграцыйных праектаў.**

У прыватнасці, "нафтавы ўльтыматум" Расіі датычыць зацягвання стварэння суместнага прадпрыемства паміж расійскім КамАЗам і беларускім МАЗам, продажу "Гродна Азота", Мінскага завода колавых цягачоў і гэтак далей, паведамляюць "Вести" са спасылкай на крыніцу ў расійскім урадзе.

"Лукашэнка ўвесь час набівае цану, але на свае заявы аб тым, што ён нічога не аддасць і не прадасць, ён выкліча рэакцыю ў адказ з боку Расіі", — заявіў у сваю чаргу гендырэктар Фонду нацыянальнай энергетычнай бяспекі Расіі Канстанцін Сіманаў, адзначыўшы, што рана ці позна пытанне з прыватызацыяй беларускіх актываў Расія вырашыць.

Як паведамляў "Тэлеграф", прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 19 красавіка ў сваім штогадовым пасланні да народа, кажучы аб праблемах прыватызацыі, заявіў, што таргі па продажы кантрольных пакетаў акцый буйных беларускіх прадпрыемстваў павінны праходзіць адкрыта, а не "ў кулуарах".

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён заўсёды высвятляе ў патэнцыйных пакупнікоў, што яны могуць прапанаваць беларускай эканоміцы, што атрымае беларускі народ ад аб'яднання МАЗа з КАМАЗам, бо часам аказваецца, што некаторыя "замежныя інвестары хочуць развваліць МАЗ, каб не было канкурэнцыі".

**telegraf.by**

СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ!

# ПАЛІТВЯЗНІ І "КРЫМІНАЛЬНІКІ"

**Для Лукашэнкі пытанне палітвязняў важна таму, што яно пра яго прэстыж, і таму, што яно пра Беларусь, якой ён кіруе. Для Еўрасаюза яно важна таму, што яно пра яго, Еўрасаюза, прэстыж, што для яго значна важней, чым Беларусь.**

Падчас нядаўняга візіту ў Хойніцкі раён Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз паўтарыў сваю любімую мантру пра палітвязняў: маўляў, хто такія, ведаць ня ведаю, ў нас і артыкулаў палітычных няма, ўсе сядзяць за крымінальныя злачынствы. Насамрэч гэтая дэмагогія мае ўжо сталы век, менавіта тое самае казалі савецкія і іншыя камуністычныя правадыры аб зняволеных сацыялістычных гулагаў.

Але Лукашэнку, відаць, вынаходніцтва вельмі падабаецца, на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі ён разыграў той жа спектакль, адказваючы на пытанне журналісткі з «Нашай нівы». Зразумела, то чыстая гульня на публіку, наўрад ці сам прэзідэнт ці, напрыклад, міністр Макей валяюць такім чынам дурня з заходнімі партнёрамі. Тым ня менш у інфармацыйнай плашчыні свае законы і байку пра «крымінальнікаў», мяркую, мы пачуем яшчэ не раз. Між тым ёсць адказ, які гэтую дэмагогію прыбівае.

Якія такія палітвязні? А дакладна такія ж, якія былі ў 2008 годзе. Зараз палітычных артыкулаў няма? Дык і тады не было. Здзьвіжкоў, Дашкевіч, Клімаў, Парсюкевіч, нарэшце, Казулін былі банальнымі крымінальнікамі? Дык чаго ж іх тады вызвалялі да тэрміну? І хіба ўсе яны пісалі прашэнні аб памілаванні? А ці можна паглядзець на прашэнне, напрыклад, Казуліна? Калі тады можна было вызваліць названых «крымінальнікаў», чаму немагчыма зараз? Можа прычыны таго ў беларускай уладзе і ёсць, але яны абсалютна не звязаныя са статусам зняволеных, вызвалення якіх дамагаецца Захад — гэты статус зараз дакладна такі ж, які быў тады, да жніўня 2008 году.

Хоць не выключана, што гэтыя пэрлы красамоўя — насамрэч падрыхтоўка свайго электарату якраз да хуткага вызвалення палітвязняў. Гэта, як бы там ні было, саступка і ёсць жаданне яе як мага лепш завуаляваць, падаць адпаведнае патрабаванне, як дзіўны капрыз заходніх палітыкаў, а крок афіцыйнага Мінску насустрач — як праяву незямной дабрыні кіраўніка дзяржавы.



Але застаецца праблема рэабілітацыі. Вызваленне можна патлумачыць вярхоўнай дабрынёй і гуманнасцю, рэабілітацыя — гэта прызнанне невінаватасці зняволеных ад пачатку, прызнанне ў самым спрыяльным для ўладаў выпадку судовай памылкі. Тут захаваць твар значна больш складана, калі наогул магчыма.

Але і другі бок знаходзіцца дакладна ў такой жа сітуацыі. Тут ёсць, зразумела, і маральная логіка — рэабілітацыя цяперашніх палітвязняў дае пэўную гарантыю, што іх месца ў хуткім часе не зоймуць новыя. Але непараўнальна большае значэнне мае тое, што Еўрасаюз паставіў на гэта свой прэстыж.

Еўрасаюз не заяўляў, напрыклад, што не будзе мець ніякіх спраў з Масквой ці Пекінам, пакуль тыя не вызваляць, скажам, Міхаіла Хадаркоўскага ці Лю Сяобо — лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру за 2010 год. Таму Еўропа без асаблівых пакутаў сумлення і палітычных стратаў і можа падтрымліваць з РФ і КНР шчыльныя рабочыя адносіны, адно заклікаючы пры выпадку да вызвалення гэтых асобаў. Маглі і да беларускіх палітвязняў пастаяць гэтак жа. Доўгая размова, чаму паставіўся інакш, але зараз гэта насамрэч другасна. А першасна — той факт, што паставіліся так, як паставіліся.

Варта сказаць, што беларускія палітыкі — прычым як з боку ўлады, так і з боку апазіцыі — часам не ўсведамляюць практычна, што Еўрасаюз, ЗША, Расія вядуць глабальную палітыку. Вось у заяве Някляева-Мілінкевіча-Януковіча ўтрымліваецца заклік да Еўропы скасаваць у аднабаковым парадку візы для беларусаў. Выдатная ідэя, але яе ініцыятарам, відаць, не прыходзіць у галаву, што зрабіўшы гэта, Еўрасаюзу будзе надзвычай цяжка тлумачыць, не толькі, скажам, Азербайджану і Расіі, але найперш Алжыру і Марока, чаму такі шчодры жэст ня робіцца ў адносінах да іх, і чым яны горшыя за Беларусь.

Сітуацыя з беларускімі палітвязнямі для Еўрасаюзу ў нечым падобная. Паўтаруся, няважна ўжо насамрэч, чаму Брусель палічыў патрэбным жорстка звязаць нармалізацыю адносін з Мінскам з лёсам палітвязняў. Але за паводзінамі ЕС глядзіць шмат уважлівых вачэй на ўсіх кантынентах. І калі раптам высветліцца, што слова Еўрасаюзу нядорага каштуе ў адносінах з крайнай, праіснаванне якой на тых кантынентах можа і не падазраюць, то для Еўрасаюзу гэта можа мець непрыемныя наступствы ў самых нечаканых месцах планеты. І наяўнасць гэтага механізму ўраўноўвае стаўкі: для Лукашэнкі пытанне важнае і таму, што яно пра яго прэстыж, і таму, што яно пра Беларусь, якой ён кіруе.

Для Еўрасаюзу яно важна таму, што яно пра яго, Еўрасаюза, прэстыж, што для яго значна важней, чым Беларусь.

**Юры Дракахруст**
**Радыё "Свабода"**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# РАСЕЯ ПАСТАВІЛА ДЫЯГНАЗ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ

**У першым квартале рост ВУП склаў 3,5% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Па выніках года беларускі ўрад мае намер выйсці на куды больш высокія тэмпы (славутыя 8,5%) росту. У той жа час Расія лічыць, што магчымасці эканамічнай мадэлі Беларусі абмежаваныя, і прагназуе на перыяд да 2030 года адносна невысокія тэмпы яе росту.**

***Расейскі погляд на беларускае будучыню***

Па дадзеных за першы квартал, аб'ём беларускага ВУП у студзені-сакавіку склаў 123,3 трлн. рублёў, і павялічыўся ў параўнанні з першым кварталам 2012 года ў супастаўных цэнах на 3,5%.

Першы квартал і ў мінулым годзе даваў таксама абнадзейлівыя паказчыкі (рост ВУП у студзені-сакавіку 2012-га склаў 3%), аднак па выніках года, нагадаем, эканамічны рост знізіўся да 1,5%.

Як будзе ў гэтым годзе? Прагнозы існуюць розныя. Аднак у расійскім урадзе не чакаюць высокіх паказчыкаў эканамічнага росту ў Беларусі.

«Ва ўмовах адсутнасці ўздзеяння знешніх і ўнутраных шокаў магчымасці росту беларускай эканомікі да 2030 года ацэньваюцца каля 4 адсоткаў», - гаворыцца доўгатэрміновым прагнозе, які падрыхтавала Мінэканамразвіцця Расіі.

экспертаў па развіцці эканомікі ў Казахстане практычна супадаюць з афіцыйнымі, а вось па Беларусі, карціна, як бачым, зусім іншая.

Прагнозныя паказчыкі па росту ВУП, запланаваныя беларускім урадам, істотна адрозніваюцца ад тых ацэнак, якія прыводзяць эксперты міжнародных арганізацый.

«Прагнозы не супадаюць, так як мы неадэкватна ацэньваем свае магчымасці. Беларускі бок зыходзіць з таго, што прадукцыя, якую мы вырабім, знойдзе збыт. У той жа час эксперты міжнародных арганізацый будуюць прагнозы, зыходзячы з попыту на прадукцыю. Павелічэння попыту на традыцыйныя тавары, якія мы вырабляем, сёння няма. Таму заканамерна, што складскія запасы ў Беларусі растуць », - тлумачыць нестыкоўку афіцыйных прагнозаў Беларусі з ацэнкамі міжнародных арганізацый намеснік старшыні Беларускай навукова-

| | Беларусь | Казахстан |
|---|---|---|
| Официальный прогноз | 8.5% | 6.0% |
| Прогноз Минэкономразвития РФ | 3.7% | 4%-5% |
| Прогноз МВФ | 3.4% | 5.7% |
| Прогноз Всемирного банка | 4.0% | 5.5% |

А вось у Казахстане, які таксама ўваходзіць у АЭП, сярэднегадавыя тэмпы эканамічнага росту, паводле ацэнак Мінэканамразвіцця, могуць быць вышэй. На думку спецыялістаў расійскага міністэрства, у выпадку развіцця несырьевой прамысловасці сярэднегадавыя тэмпы росту эканомікі Казахстана будуць складаць каля 5,5%.

Паказальна, што прагнозы

прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц.

Як бачым на табліцы вышэй, і Сусветны банк, і Міжнародны валютны фонд, і цяпер Мінэканамразвіцця Расіі прагназуюць патэнцыйна магчымы рост беларускай эканомікі на ўзроўні не вышэй за 4%.

*(скарочана)*

**Дзмітрый ЗАЯЦ**
**naviny.by**

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ - 2013

# ШЛЯХУ НЕ ХАПАЕ НЕ ТОЛЬКІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ...

**Магчыма, мелі рацыю беларускія "зялёныя", калі крытыкавалі падрыхтоўку да "Чарнобыльскага шляху" і казалі, што ён ператварыўся ў дрэнны працяг Дня Волі. Кажуць, горш было толькі на мінулагодніх "Дзядах".**

Цяпер яшчэ не зразумела, што адыграла сваю ролю ў тым, што традыцыйна масавая акцыя апазіцыі, да таго ж прызваная яднаць увесь народ, прайшла з такой малой колькасцю ўдзельнікаў. Але, што адбылося, тое адбылося.

Спачатку ўсё было добра. Незвычайнымі былі два моманты. Першы: арганізатары вырашылі нікога не чакаць. Запланавалі пачатак шэсця ў 19 гадзін — без дзесяці хвілін 19 пачалі выбудоўваць калону і роўненька ў сем вечара стартанулі з месца. І літаральна праз хвілін дзесяць стала зразумела: нягледзячы на добрае надвор'е, на цудоўны вечар і на нагоду сабрацца разам і на тое, што нікому заўтра не трэба на працу, народу прыйшло столькі ж, калі не менш, чым на Дзень Волі.

Далей усё пайшло, як звычайна. Людзі без якіх-небудзь эксцэсаў павярнулі з праспекту Незалежнасці на вуліцу Сурганава, па тратуары, з пераходамі скрыжаванняў на зялёнае святло прайшлі да плошчы Бангалор. Чуліся лозунгі "Свабоду палітвязням!", "Атам мірным не бывае!", "Не АЭС на Беларусі!", і вядома ж, "Жыве Беларусь!".

Пляцоўка на Бангалоры паказала, што "мяккая дэмакратыя" скончаная. Яна апынулася абгароджана турнікетамі і металашукальнікамі. Праз дагляд прапускалі ўсіх. Частка народа не пагадзілася на такую працэдуру і сышла — у першых шэрагах гэта зрабілі анархісты. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі забараніць праносіць на пляцоўку мегафоны. Але арганізатары гэты дазвол усё ж выбілі. Хоць гэта і дзіўна: бо ім жа дазволілі прывезці нармальную гукаўзмацняльную апаратуру. Чамусьці гэтага зроблена не было.

У выніку на пляцоўцы перад сцэнай аказалася сотні паўтары чалавек. Ад асноўнай групы, як і ў Дзень Волі, адкалолася купка моладзі з гітарамі, якія спявалі беларускія песні асобна ад мітынгоўцаў. Але калі ў Дзень Волі гэта выглядала прыстойна і дарэчы (як-ніяк Дзень Волі ўсё ж такі свята), то ў дзень жалобы, дзень, у які адбылася аварыя на ЧАЭС, песні і скокі глядзеліся ніякавата. Адразу ўзгадваўся суд за нейкі "Шлях" 1990-х гадоў і сведка-міліцыянт, які ўвесь час сцвярджаў, што прысутныя на акцыі "святкавалі гадавіну аварыі на ЧАЭС"...

Падобна на тое, што ў гэты дзень "затармазіла" нават міліцыя, пачаўшы пасля акцыі спачатку затрымліваць, а пасля адпускаць журналістаў. Патрапілі пад раздачу карэспандэнты "Нашай Нівы" і "Радыё Рацыя".

Чаму ж на "Шлях" прыйшло так мала людзей? Былы кандыдат у прэзідэнты ад БНФ Рыгор Кастусёў патлумачыў гэта тым, што людзі ў пятнічны вечар паз'язджалі на дачу адкрываць "пасяўную". Яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты, гэтым разам ад БХД, Віталь Рымашэўскі наогул абвясціў акцыю паспяховай, і зваліў усё на "рэжым": маўляў, удзельнікі не пайшлі на месца збору, і не засталіся на мітынг, таму што "міліцыя чыніла перашкоды".

Справа, напэўна, не ў пасяўной, і не ў міліцыі. Па-першае, у чымсьці ёсць справядлівасць "зялёных" і ліквідатараў, якія заявілі, што "Шлях" ператварыўся ў палітычнае шоў, і страціў, уласна кажучы, саму ідэю акцыі. Ну а па-другое ...

Па-другое, персанальна аўтар гэтых радкоў, які хадзіў на прэс-канферэнцыі і круглыя сталы, прысвечаныя падрыхтоўцы да "Шляху", нават на гэтых канферэнцыях і круглых сталах не бачыў аніводнай (!!!) улёткі ці налепкі з заклікам прыйсці на акцыю. Тым больш іх не было відаць на слупах і ў пад'ездах Мінска.

"Шляху" не хапае не толькі ўдзельнікаў. "Шляху" не хапае той самай прымітыўнай рэкламы на слупах. Усе размовы пра тое, што на такую рэкламу "няма грошай", альбо што "арганізатараў папярэдзіць, бо нельга да афіцыйнага дазволу", — гэта толькі "адмазкі". У 1990-х грошай было яшчэ менш, а адсутнасць афіцыйнага дазволу нікому не перашкаджала...

*(скарочана)*

**Сяргей Пульша**
**“Новы час”**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# ШТРАФЫ — НАРОДУ...

**Вясна надышла, але праблемы не скончыліся. Мы ўсё яшчэ адварочваемся назад, зазіраючы ў зіму: а раптам пахаладнее? Азіраецца на зіму нават той, хто не мае да нашых «Хаўераў» аніякага дачынення.**

Інфляцыя ў Беларусі па выніках І квартала ў 10,8 разы перавысіла сярэднееўрапейскі ўзровень, сведчыць агляд Расстата, падрыхтаваны на аснове публікацый агульнаеўрапейскага статыстычнага агенцтва Еўрастат і нацыянальных статыстычных дадзеных.

«Сярод разгляданых краін з пачатку бягучага года цэны больш за ўсё ўзраслі ў Беларусі (на 5,4%), Турцыі (на 2,9%), Нідэрландах (на 2,3%), Эстоніі (на 2,2%)», — гаворыцца ў паведамленні. У Расіі і Казахстане інфляцыя склала 1,9%, на Украіне — 0,1%. У сярэднім па краінах ЕС рост коштаў з пачатку года склаў 0,5%.

Ну, пра 5,4% інфляцыі мы і без Расстату ведалі. А чаму так адбываецца? Хто вінаваты? Здавалася б, Мінэканомікі, бо цэны раслі ў асноўным на прадукцыю, кошт якой рэгулюецца дзяржавай. Але вось само Мінэканомікі так не лічыць.

Амаль 80% беларускіх прадпрымальнікаў не выконваюць цэнавае і антыманапольнае заканадаўства — перакладвае Міністэрства эканомікі праблему з хворай галавы на здаровую. Паводле паведамлення, у першым квартале 2013 года органамі цэнаўтварэння Беларусі праведзена 189 праверак суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, у тым ліку 87 пазапланавых праверак. Парушэнні цэнавага і антыманапольнага заканадаўства былі выяўлены ў 150 правераных аб'ектаў. Па выніках 718 праверак у 2012 (у тым ліку 112 пазапланавых) парушэнні былі выяўлены ў 512 суб'ектаў.

Да суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія дапусцілі парушэнні заканадаўства, Дэпартаментам цэнавай палітыкі Мінэканомікі і гаспадарчымі судамі абласцей ужываліся штрафныя санкцыі. У 2012 годзе вынесена 811 пастаноў аб адміністрацыйным правапарушэнні ў выглядзе штрафу на 12,9 мільярда рублёў, у першым квартале 2013 года — 236 пастаноў на суму 356,1 мільёна рублёў. У даход бюджэту ў 2012 годзе і ў першым квартале 2013 года ўнесена 12,3 мільярда рублёў.

Ну што ж, бюджэт, хаця б штрафамі, але напаўняць трэба. Вось яшчэ адна структура далучылася да дзейнасці па напаўненні бюджэту. УП «Белтэхагляд» ініцыюе павелічэнне штрафаў за несвоечасовае праходжанне дзяржаўнага тэхагляду да 4 базавых велічынь (400 тысяч рублёў), а для легкавых аўтамабіляў, якія выкарыстоўваюцца для камерцыйных перавозак пасажыраў, — да 20 велічынь (2 мільёны). Згодна з дзейным заканадаўствам, дадзенае правапарушэнне караецца папярэджаннем або штрафам да 2 базавых велічынь. У цяперашні час прапановы УП «Белтэхагляд» разглядаюцца ў Міністэрстве транспарту і камунікацый.

Як паведамляе прэс-служба УП «Белтэхагляд», у канцы сакавіка падчас правядзення агульнарэспубліканскай дэкады «Дзяржтэхагляд» было праверана каля 24,7 тысячы аўтамабіляў, у траціны з якіх былі выяўлены парушэнні тэрмінаў праходжання тэхагляду. Гэта ж якое неаранае поле для «стрыжкі купонаў» з простых грамадзян!

Лепш бы ўсе гэтыя Мінэканомікі і тэхагляды разбіраліся з іншымі рэчамі. Напрыклад, з нашай горача любімай і вельмі шаноўнай прамысловасцю, якая ўкладвае грошы проста ў паветра.

Напрыклад, на тыдні прадстаўнік Мінпрама РБ Вадзім Казлоў выпрошваў ва ўладаў Новасібірскай вобласці дапамогу для зборачнай вытворчасці «Магілёўліфтмаша». Справа ў тым, што «Магілёўліфтмаш» стварыў у Новасібірску сваё прадпрыемства, якое там аказалася нікому не патрэбнае. «Зборачная вытворчасць «Магілёўліфтмаша» была створана, але ў цяпер не працуе з адсутнасці падтрымкі з боку адміністрацыі Новасібірскай вобласці. Гатовыя ліфты закупляюцца, аднак зборачная вытворчасць не працуе», — заявіў Казлоў.

Па словах Казлова, для стварэння зборачнай вытворчасці было выкуплена 3,3 тысячы квадратных метраў вытворчых плошчаў і 1,5 гектара зямлі на тэрыторыі былога завода «Сібсельмаш». Але, як высветлілася, Новасібірску гэтыя ліфты, як ужо казалася, не патрэбныя.

**Сяргей Салаўёў**
**“Новы час”**

НАВУКОВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

# МІФ ПРА “СЛАВЯНСКАЕ АДЗІНСТВА” РАЗБУРАНЫ

**Сенсацыйнае даследаванне расійскіх генетыкаў: беларусы і палякі - блізняты-браты, а рускія нават не славяне**

Апошнія вынікі даследаванняў расійскіх навукоўцаў пра генафонд рускага народу цалкам абвяргаюць канцэпцыю аб "усходніх славянах", у тым ліку галоўны міф прыхільнікаў так званай "саюзнай дзяржавы" аб тым, што рускія і беларусы - гэта ледзь не адзін народ: беларусы генетычна вельмі далёкія ад рускіх, затое апынуліся фактычна ідэнтычныя палякам і вельмі блізкія чэхам і славакам. А вось фіны Фінляндыі апынуліся для рускіх куды генетычна бліжэй, чым беларусы.

Гэта значыць беларусы і рускія настолькі розныя, што пасля шматвяковай прапаганды аб "роднаснай крыві беларусаў і рускіх" паверыць у гэта складана, але, падобна, трэба. Бо вынікі даследавання кажуць самі за сябе: генетычна рускія - зусім не "ўсходнія славяне", а фіны. І генетычны беларусы таксама не "ўсходнія славяне", а ... заходнія, прычым генетычна беларусы практычна не адрозніваюцца ад палякаў, гэта значыць не з рускімі, а з палякамі беларусы на генетычным узроўні з'яўляюцца "двайнятамі-братамі". Больш за тое, гурт "усходніх славян" была прыдуманая расійскімі прапагандыстамі царскіх часоў, каб апраўдаць заняволенне суседніх народаў - украінцы, як і рускія таксама, аказваецца, не маюць ніякага дачынення ні да "усходніх славян", ні да славян наогул! Аб сенсацыйнае даследаванні піша Вадзім Растоў, gumilev-center.ru

«Расійскія навукоўцы завяршылі і рыхтуюць да публікацыі першае маштабнае даследаванне генафонду рускага народа. Апублікаванне вынікаў можа мець непрадказальныя наступствы для Расіі і сусветнага парадку "- так сенсацыйна пачынаецца публікацыя на гэтую тэму ў расійскім выданні" Улада ". А сенсацыя сапраўды атрымалася неверагодная - апынуліся ілжывымі шматлікія міфы аб рускай нацыянальнасці. У тым ліку высветлілася, што генетычна рускія - зусім не «ўсходнія славяне», а фіны.

Вынікі даследаванняў расійскіх навукоўцаў пра генафонд рускага народа яшчэ доўга будуць засвойвацца ў грамадстве, бо яны цалкам абвяргаюць усе існуючыя ў нас прадстаўлення, зводзячы іх да ўзроўню ненавуковых міфаў. Гэтыя новыя веды трэба не столькі зразумець, колькі да іх трэба прывыкнуць. Цяпер абсалютна ненавуковай стала канцэпцыя аб "усходніх славянах», ненавуковымі з'яўляюцца з'езды славян у Мінску, дзе збіраюцца зусім не славяне з Расіі, а рускамоўныя фіны з Расіі, якія генетычна славянамі не зьяўляюцца і да славян ніякага дачынення не маюць. Сам статус гэтых «з'ездаў славян» цалкам дыскрэдытаваны расійскімі навукоўцамі. Рускі народ названы па выніках гэтых даследаванняў навукоўцамі Расеі не славянамі, а фінамі. Фінамі названа і насельніцтва Усходняй Украіны, а насельніцтва Заходняй Украіны генетычна сарматы. Гэта значыць, украінскі народ - таксама не славяне.

Адзінымі славянамі з "усходніх славян" генетычна названы беларусы, але яны генетычна ідэнтычныя палякам - а значыць, з'яўляюцца зусім не «ўсходнімі славянамі», а генетычна заходнімі славянамі. Фактычна гэта азначае геапалітычны крах Славянскага Трыкутніка "ўсходніх славян", бо беларусы апынуліся генетычна палякамі, рускія - фінамі, а ўкраінцы - фінамі і сарматамі.

Вядома, прапаганда будзе спрабаваць і далей гэты факт хаваць ад насельніцтва, але шыла ў мяшку не ўтоіш. Як і не зачыніць рот навукоўцам, а не схаваць іх найноўшыя генетычныя даследаванні. Навуковы прагрэс спыніць немагчыма. Таму адкрыцця расійскіх вучоных - гэта не проста навуковая сенсацыя, а БОМБА, здольная падарваць ўсе цяпер існуючыя асновы ў паданнях народаў. Вось чаму расейскі часопіс «Улада» і даў гэтаму факту вельмі занепакоеную ацэнку: «Расійскія навукоўцы завяршылі і рыхтуюць да публікацыі першае маштабнае даследаванне генафонду рускага народа. Апублікаванне вынікаў можа мець непрадказальныя наступствы для Расіі і сусветнага парадку ". Часопіс не перабольшыў.

*(скарочана)*

**www.belaruspartizan.org**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.04.2013 у 17.15.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.